# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 37 (811) ГОД XVI БЕЛАСТОК 12 ВЕРАСНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.

## БГКТ хроніка

■ Нядаўна адбыўся сход гуртка БГКТ у Ячне, што ў Дуброўскім павеце. Члены БГКТ абмеркавалі дагэтуляшнюю сваю працу і дайшлі да вываду, што найбольш актывізуюць дзейнасць гуртка спатканні з літаратарамі і дзеячамі БГКТ, а таксама канцэрты мастацкіх калектываў і паказ савецкіх фільмаў.

На гэтым сходзе мясцовы літаратар Мікалай Каленік чытаў свае вершы.

■ 22 жніўня з ініцыятывы гуртка БГКТ у Плёсках (Бельскі павет) адбыліся традыцыйныя дажынкі. На гэтую ўрачыстасць жанчыны прыбылі ў народных уборах. Быў прачытаны даклад на беларускай мове, у якім было паказана, хто які атрымаў ураджай і чаму. Вялікай атракцыяй была спроба хлеба з сёлетняга ўраджаю.

■ 22 жніўня члены прэзідыума ГП Янка Зенюк і Мікалай Гайдук мелі сустрэчу з куратарам асветы беластоцкай акругі, на якой між іншым было вырашана, што ў верасні адбудзецца сустрэча кіраўніцтва ГП БГКТ з кіраўніцтвам куратарыі, на якім будуць абмежаваны некаторыя справы беларускага школьніцтва.

■ 23 жніўня прэзідыум Сакольскага аддзела БГКТ звярнуў увагу на недахопы ў аплочванні членскіх складчын, а таксама зацвердзіў план працы аддзела да канца гэтага года. (мх)

# Аб працы гурткоў БГКТ

**12 верасня пленум ГП БГКТ найбольш прысвеціць часу абмяркоўцы гурткоў БГКТ, іх працы, ролі і значэнню ў беларускім асяроддзі. Ніжэй публікуем выказванні актывістаў БГКТ, якія непасрэдна працуюць з гурткамі.**

## Самае важнае — ініцыятыва

— Пытанне аб ролі гуртка ўзнікла ў нашай арганізацыі пры розных нагодах. Некаторыя актывісты калісьці нават задумваліся, ці наогул гурток патрэбны як пярвічны і асноўны элемент нашай арганізацыі. Такія меркаванні вынікалі з таго, што раней гурткі часта не праяўлялі дынамічнай дзейнасці. Але такога пытання нельга ставіць. Можам толькі задумацца над тым, што зрабіць, каб праца ўсіх гурткоў была на значна вышэйшым узроўні. А яна, як вядома, залежыць ад людзей, бо за кожнай дзейнасцю стаіць чалавек. Гурток, які групуе актыўных і ахвярных людзей, адданых працы ў ім, заўсёды мае канкрэтныя дасягненні. Вопыт Гайнаўшчыны гэтаму доказ. Напрыклад, гурткі ў Семяноўцы, Трасцянцы і іншых мясцовасцях разгарнулі шырокае супрацоўніцтва з пярвічнымі партыйнымі арганізацыямі, Саюзам вясковай моладзі, гурткамі вясковых гаспадынь, прыхілілі да працы і старэйшых людзей, і моладзь. Гэтыя гурткі маюць і эфекты. Але ў Семяноўцы актыўна і ахвярна працуе Юрка Кіслы, а ў Трасцянцы — Галя Тапалянская. Яны і з'яўляюцца ініцыятарамі належнай працы гэтых гурткоў.

Па-другое, на маю думку, — думку актывіста БГКТ і старшыні аддзела з немалой практыкай у гэтай галіне, прычына не заўсёды задавальняючай працы нашых гурткоў ляжыць і ў структуры нашай арганізацыі: на Гайнаўшчыне ёсць 73 гурткі, а штатны інструктар на ўвесь павет — адзін. Ён не ў сілах прысвяціць многа часу кожнаму гуртку, яго канкрэтным справам і клопатам.

Па-трэцяе, аддзелы, звычайна, гуртуюць вакол сябе



*АЛЯКСАНДР ІВАНЮК — старшыня аддзела БГКТ у Гайнаўцы.*

значны грамадскі актыў. Але гэты ж актыў складаюць людзі, якія заняты сваімі прафесіянальнымі абавязкамі і апрача БГКТ з'яўляюцца актывістамі яшчэ і ў іншых арганізацыях. Вось хоць бы і я. Мая прафесія — настаўнік, да гэтага часу быў я дырэктарам ліцэя, з'яўляюся старшынёй аддзела БГКТ, членам ідэалагічнай камісіі ПК ПАРП, членам камісіі асветы Прэзідыума ПРН, старшынёй ідэалагічнай камісіі ПК Фронта адзінства народа і ў шэрагу іншых арганізацыях, можа трохі менш істотных. А такіх актывістаў, як я, ёсць у нашым аддзеле многа. І ў практыцы вынікае, што немагчыма прысвяціць сябе працы толькі ў адной арганізацыі. Вось чаму дапамога грамадскага актыву аддзела ў працы з гурткамі не можа быць вялікай і рэгулярнай. Таму неабходна, каб у саміх гуртках быў свой актыў і людзі, якія б часцей заходзілі ў аддзел і гаварылі, што трэба гуртку, якія ён мае цяжкасці і клопаты. Словам, вельмі патрэбны сувязныя на лініі гурток — аддзел.

Чацвёртая справа — гэта праца з гурткамі штатных працаўнікоў Галоўнага праўлення БГКТ. Тут ужо многа зрабіў сакратар ГП — тав. Я. Зенюк, накіроўваючы працаўнікоў Галоўнага праўлення да наведвання і працы ў далёкіх гуртках. Першы крок зроблен, трэба яго прадаўжаць.

(Працяг на стар. 3)

# Аўтобусныя праблемы



ПКС адыгрывае ў штодзённым жыцці велізарную ролю. Аўтобусы ПКС злучаюць гарады, мястэчкі, далёкія вёскі з шырокім светам. Без аўтобуснай сеткі сувязі не магло б быць нармальнага развіцця Беласточчыны. ПКС-ам едуць людзі ў гарады, да патрэбных ім мясцовасцей, на працу на фабрыках і ва ўстановах, у школу.

Беластоцкае прадпрыемства ПКС мае цяпер 466 аўтобусаў і 22 прычэпы (даныя на дзень 31.VII.1971 г.). Кожны дзень праязджаюць яны 93.069 км і з 1681 аўтобусных прыпынкаў забіраюць людзей. За 7 мінулых месяцаў гэтага года аўтобусы ПКС перавезлі больш 24,5 мільёнаў чалавек, у тым школьнікаў з месячнымі білетамі амаль 2,5 мільёнаў, а дарослага насельніцтва з месячнымі білетамі 2.129.000 асоб.

Запатрабаванне на даезды ПКС да вёсак вялікае. Яшчэ да сёння нават некаторыя сядзібы грамадскіх рад нарадовых не маюць аўтобуснай сувязі з паветам. Пакуль што ваяводскае прадпрыемства ПКС не ў стане задаволіць усіх запатрабаванняў насельніцтва. Справа ў тым, што адчуваецца вялікі недахоп аўтобусаў. У маштабе ўсёй краіны ў сучасны момант патрэбна не менш 4 тысяч аўтобусаў. Беласточчына, згодна з планам, на працягу трох кварталаў гэтага года павінна была атрымаць 92 аўтобусы, а атрымала толькі 69. Калі ўзяць пад увагу факт, што 12 аўтобусаў маркі «Сан» ужо дастаткова выезджаныя і трэба іх выводзіць з аўтобуснага парку тады недахоп у сучасны момант аўтобусаў даволі вялікі, бо вельмі патрэбны ўжо зараз 35 штук.

Другой праблемай з'яўляецца недахоп заменных частак да аўтобусаў. Не хапае іх нават да аўтобусаў краёвай прадукцыі. І таму прадпрыемства ПКС вымушана рабіць розныя камбінацыі, каб як-небудзь не дапусціць да таго, што з-за той ці іншай заменнай часткі не было прастою машын.

Наступнай вельмі істотнай справай з'яўляецца недахоп шафёраў першай катэгорыі. Шафёраў трэцяй або другой катэгорыі ПКС не прымае. Патрэбны тут высокакваліфікаваныя шафёры, таму што ім давяраецца везці 50, а часта і значна больш чалавек. Шафёры адказныя за іх жыццё. Ды і аўтобус каштуе каля паўмільёна злотых. І вось справа шафёраў першай катэгорыі ў нас не вырашана. Няма шафёрскіх школ, якія б выпускалі высокакваліфікаваных аўтобусных вадзіцеляў. Існуюць рознага роду курсы, якія за некалькі месяцаў навучаць людзей карыстацца машынамі. Да атрымання права язды першай катэгорыі далёкі шлях. Патрабуецца вялікая практыка. І як не дзіўна, але ёсць у нас школы цырульнікаў, токараў і іншыя, выпускнікі якіх не нясуць адказнасці за людзей, а выконваюць параўнальна нескладаныя дзеянні. А няма шафёрскіх школ, якія б выпускалі сапраўдных спецыялістаў, якім можна было б смела даверыць дарагія машыны і людзей. ПКС мае таксама школу пры сваім прадпрыемстве, але ў ёй падрыхтоўваюць шафёраў толькі трэцяй катэгорыі і практычна яна не дае шафёраў для аўтобусаў. Адным словам, неабходны тэхнікум, пры якім была б і засадніччая прафесіянальная школа. З ПКС-у ўцякаюць шафёры першай катэгорыі, не глядзячы на тое, што заробкі іх перавышаюць значна 3 тысячы злотых. Шукаюць яны выгаднейшай працы і знаходзяць. Працуючы ў ПКС-е, у сярэднім 10 дзён у месяц даводзіцца начаваць па-за домам і, апрача таго, вельмі часта трэба ехаць вечарам або ў вельмі раннія гадзіны дня. Зараз у Беластоцкім ПКС-е не хапае 36 шафёраў.

Прадпрыемства ПКС мае шэраг і іншых клопатаў, да якіх трэба залічыць таксама і недахоп кандуктараў, адсутнасць аўтобусных вакзалаў у паветах, рамонтных баз і, як гаварылася вышэй, недахоп заменных частак.

І калі ўзяць пад увагу ўсю велізарнасць розных цяжкасцей ПКС-у, смела можна сцвердзіць, што Беластоцкае прадпрыемства ПКС, яго кадры і перш за ўсё кіраўніцтва, даволі добра спраўляецца са сваімі абавязкамі. Бо ПКС займаецца не толькі перавозам людзей. ПКС выконвае і іншыя ўслугі. Грузавымі машынамі перавозіць ён шмат тавараў. Асабліва восенню прыходзіцца яму здаваць цяжкі экзамен. Але аб гэтай другой дзялянцы дзейнасці ПКС напішам у наступным артыкуле.

*Міхась Хмялеўскі*

# АБ ПРАЦЫ ГУРТКОЎ БГКТ

(Працяг са стар. 1)

Па-пятае, набліжаецца справаздачна-выбарная кампанія ва ўсіх гуртках БГКТ. Гэта вельмі спрыяючы момант, каб гурткі выбралі ў свае праўленні найбольш адпаведных, актыўных і ахвярных людзей. Кампанія паслужыць актывізацыі працы ў гуртках. Пры гэтым трэба было б правесці ўлік і аналіз патрэб гурткоў. На аснове гэтага ўліку можна будзе выпрацаваць у Галоўным праўленні прыкладныя планы працы і акрэсліць рамкі дзейнасці гуртка БГКТ. Зразумела, кожны гурток іх дапасаваў бы да сваіх магчымасцей і патрэб. Гэта была б вялікая дапамога гурткам.

І апошняя, але найважнейшая справа. Што павінен рабіць гурток? Ён павінен рабіць усё тое, што робіць наша Таварыства, але ў памерах яго магчымасцей. Ён павінен будзіць свядомасць свайго асяроддзя ў адносінах да нашай беларускай прагрэсіўнай традыцыі і культуры, развіваць пашану да нашай роднай беларускай мовы, займацца культурнай дзейнасцю (драматычныя гурткі, народныя хоры, вечарыны і г.д.), павышэннем ведаў з розных галін жыцця, асабліва па сельскай гаспадарцы, актыўна ўключацца ў сучаснае жыццё свайго асяроддзя, супрацоўнічаць з іншымі палітычнымі, маладзёжнымі і грамадскімі арганізацыямі свайго сяла, мястэчка ці горада. А гэта таму, што гурток БГКТ — тое звяно і арганізацыя, якая па сваёй форме беларуская, але сацыялістычная ў змесце сваёй працы. М. Г.

## Па народную песню



*МІКАЛАЙ ГАЙДУК — старшыня аддзела БГКТ у Бельску.*

— Адным з важных заданняў нашага Таварыства з'яўляецца праца па збіранню, апрацоўцы і прапагаванню этнаграфічных матэрыялаў, якія датычаць беларускай нацыянальнай меншасці, пражываючай у Польшчы. У гэтай справе ў папярэднія гады ўжо шмат зроблена і праца далей працягваецца. Зборы экспанатаў, якія ўжо знаходзяцца ў Беларускім этнаграфічным музеі ў Белавежы, — вялікі здабытак нашай арганізацыі. Здаецца мне, што варта прадумаць, як арганізаваць і абсталяваць адзін з пакояў у будынку Галоўнага праўлення БГКТ на пастаянную тэматычную выстаўку музейных экспанатаў. Словам, заснаваць у памяшканні Галоўнага праўлення своеасаблівы аддзел (філіял) Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы. Гурткі БГКТ павінны палічыць сабе за гонар дапамагчы ў збіранні ў сваіх мясцовасцях экспанатаў у музей.

Другім, не менш важным заданнем БГКТ, з'яўляецца збіранне вуснай народнай творчасці беларусаў Беласточчыны. Калі са збіраннем экспанатаў матэрыяльнай культуры ў нас зроблена даволі многа, дык з вуснай народнай творчасцю мы ўсё яшчэ робім першыя няпэўныя і несістэматычныя крокі. Нашай арганізацыі выразна не хапае спецыяліста па фальклору, які б (як мгр У. Гацута ў Беларускім этнаграфічным музеі матэрыяльнай культуры) заняўся збіраннем, апрацоўкай і прапагаваннем вуснай народнай творчасці. Але, не чакаючы, калі такі спецыяліст у ГП БГКТ будзе, навуковы гурток пры ГП БГКТ павінен як мага хутчэй распрацаваць праграму дзейнасці ў гэтай галіне, Галоўнае праўленне — забяспечыць тэхнічнымі сродкамі для збірання. Зразумела, што тут мы не абыдземся без актыўнага ўдзелу гурткоў БГКТ у вёсках і мястэчках Беласточчыны. Неабходна, каб мастацкія калектывы, якія ўжо працуюць або арганізуюцца пры гуртках, смялей звярталіся да мясцовай вуснай народнай творчасці і ўводзілі яе ў свой рэпертуар (песні, прыпеўкі, жарты, гумарыстычныя сцэнкі і г.д.). З бегам часу гэтыя мясцовыя народныя хоры могуць стаць базай для стварэння пры ГП БГКТ вялікага зводнага фальклорнага калектыву, які змог бы дэманстраваць непаўторную прыгажосць беларускай народнай песні Беласточчыны.

## Добры пачатак

— Усё пачалося з прыезду ў чэрвені бягучага года ў наша сяло Веранікі Леанюк — сакратара бельскага аддзела БГКТ. Сабралася нас тады мнагавата, і 24 асобы ўступілі ў Беларускае таварыства. Адразу ж выбралі праўленне гуртка, запланавалі, што будзем рабіць. І ўжо ў месяцы ліпені арганізавалі мы выезд у тэатр у Беласток. Паехалі ўсе члены гуртка, а з імі яшчэ 29 чалавек. Поўны аўтобус! І весела, і прыемна, і карысна — некаторыя былі ўпершыню ў сапраўдным тэатры. Так у нас і рушыла праца ў гуртку. Пярвічная партыйная арганізацыя разам з праўленнем нашага гуртка рашылі арганізаваць і адкрыць святліцу ў нашым сяле. Ужо дамовіліся з гаспадаром дома, які дагэтуль стаяў пусты. Цяпер збіраем сродкі на рамонт і абсталяванне. Спадзяемся, што дапаможа нам Прэзідыум ПРН у Бельску. Папрацуем таксама грамадскім чынам пры выкладцы бетоннымі пліткамі паверхні школьнага пляцу. Ну і зоймемся культурнай дзейнасцю. Тут хочацца нам правесці платную танцавальную вечарыну, бо і пагуляць моладзь хоча, і ўзбіраем трохі на нашу святліцу. А ўвосень зоймемся і драматычным гуртком. Гурток наш хоць і малады, але актыўны і амбітны. А душой яго з'яўляецца кіраўнік нашай пачатковай школы Аляксандр Барташук. Ён так умее нас і заахвоціць і пакіраваць. Вельмі ж усім нам добра з ім працуецца. (М. Г.)



*ІРА ВАЎДЗЕЙЧУК — старшыня гуртка БГКТ у Войшках.*

## Аб сваім гуртку



*ЯНКА ШЫМАНЮК — член праўлення гуртка БГКТ у Семяноўцы.*

— Функцый розных у мяне — хоць адбаўляй. З'яўляюся я працаўніком ГРН на пасадзе рэферэнта, сакратаром партарганізацыі, камендантам ОРМО, грамадскім апекуном і г.д. З дзейнасцю БГКТ я непарыўна звязаны ад пачатку існавання ў нашай вёсцы гуртка БГКТ, гэта значыць, больш 10-ці гадоў. Члены БГКТ у нас цесна супрацоўнічаюць з ЗМВ. Арганізавалі мы ў сябе драмгурток. Зараз ставім п'есы, а таксама выступаем з мастацкай часткай, у якой маем шмат песень, вершаў і гумараў, ці то з нагоды святкавання знамянальнай дзяржаўнай ці гістарычнай гадавіны або на беларускіх фестынах. Маем святліцу, у якой арганізуем танцавальныя вечарыны, сходы, акадэміі, сустрэчы з цікавымі людзьмі. А працы грамадскім чынам мы выканалі многа. Працавалі мы і пры пабудове будынка ГРН, крамы і мясцовых дарог. Зараз пракладаем дарогу праз вёску: возім пясок, кладзем тратуары, рамантуем платы — кожны насупраць свайго дома і г.д. Кантакт з павятовым аддзелам БГКТ мы маем добры. Часта прыязджае да нас кінаперасоўка з савецкімі кінафільмамі, эстрадны калектыў «Лявоніха» з Беластока і г.д. (яц)

## За канкрэтную работу

У гуртку БГКТ вельмі важную ролю адыгрывае яго праўленне. Таму, прыступаючы да выбараў, а яны неўзабаве пачнуцца ў гуртках, усе члены павінны вельмі сур'ёзна задумацца, каго выбраць старшынёй, сакратаром, касірам і членамі праўлення. Яны ж будуць і кіраваць гуртком і прадстаўляць яго ў сваім асяроддзі, а таксама перад палітычнымі і грамадскімі арганізацыямі сяла, грамады, павета. Значыць, гэта павінны быць людзі паважаныя, салідныя, разважныя, якія карыстаюцца ў сяле пашанай і аўтарытэтам. Але адначасова яны павінны мець значныя арганізатарскія здольнасці — уменне заахвоціць іншых членаў гуртка і далікатна пакіраваць імі. І праца гуртка не можа зводзіцца толькі да 2—3 сходаў. Гурток павінен ставіць перад сабой канкрэтную мэту сваёй дзейнасці: скласці сваю праграму дзеяння. А ў ёй трэба, каб было хоць некалькі значных мерапрыемстваў. Напрыклад: праца грамадскім чынам на карысць свайго сяла ці грамады, адзначэнне вялікіх дзяржаўных ці міжнародных гадавін, мясцовыя ўрачыстасці, фестын, конкурс і г.д. Кожнае з такіх мерапрыемстваў павінна быць загадзя запланавана, адпаведна падрыхтавана і забяспечана выканаўцамі і адказнымі. Вялікую ролю ў працы гуртка адыгрываюць рознага роду вечарыны. Асабліва танцавальныя вечарыны дазваляюць сабраць усю моладзь сяла. Такія вечарыны неабходна выкарыстаць на паказ дасягненняў нашага таварыства. У праграме вечарыны добра было б, каб былі і песні, і конкурсы, і гумар. Думаю, што варта ў нашых гуртках прапагандаваць спорт і турызм. Пры ўмелай працы гуртка можна сабраць сродкі, якія часткова дапамогуць арганізаваць экскурсію, лагер, рэйд (пешы, веласіпедны, на матацыклах) і г.д. Найлепш прыхіляе і моладзь і старэйшых да працы ў гуртку дзейнасць у мастацкім калектыве. Можа гэта быць драматычны гурток калектыву мясцовай народнай песні, спеваў і музыкі, літаратурна-музычная эстрада і г.д. Пры арганізацыі мастацкага калектыву заўсёды дапаможа мясцовая школа, яе кіраўнік ці настаўнік беларускай мовы, неабходна толькі звяртацца да іх. Словам, асенне-зімовы сезон перад намі. Спадзяюся, што будзе ён цікавы.



*СЯРГЕЙ ЛУКАШУК — кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП БГКТ.*

## Патрэбны нам дзеячы



*Сяргей КРЭЙЗА, старшыня мілейчыцкага гуртка.*

— Найбольш агульна беручы, трэба сказаць, што гурток БГКТ мае абавязак актыўна дакументаваць сваё існаванне ў вёсцы. Дам прыклад. У летнюю гарачыню асноўнай справай для вёскі была пастаянная пагроза пажараў. Павятовая камендатура супрацьпажарнай аховы ў Сямяцічах звярнулася да нас, каб мы таксама гэтае пытанне ўзялі пад увагу ў сваёй арганізацыйнай дзейнасці. І зусім слушна.

Я мяркую, што гурток БГКТ мае рабіць перш за ўсё тое, што не ў сілах зрабіць іншыя грамадскія і палітычныя арганізацыі, якія дзейнічаюць у нашых вёсках. Наша таварыства з'яўляецца беларускім культурна-грамадскім таварыствам, таму гурток, яго асноўнае арганізацыйнае звяно, павінен перад усім займацца прывіваннем сваім членам і асяроддзю, у якім дзейнічае, багатай беларускай культуры. Павінен распаўсюджваць чытальніцтва беларускіх кніг і газет, дэманстраваць беларускія і савецкія кінафільмы, наладжваць канцэрты «Лявоніхі» і другіх калектываў, арганізоўваць вясковую самадзейнасць — найлепш на мясцовым фальклорным матэрыяле, сустрэчы (па меры магчымасці даволі частыя) з беларускімі пісьменнікамі, пражываючымі ў Польшчы, а калі б удалося, дык і з савецкімі, скажам, у рамках прыгранічнага бездэвізнага абмену, сустрэчы з даследчыкамі беларускай тэматыкі, арганізацыя — пры фінансавай і праўнай падтрымцы з боку ГП БГКТ — калектыўных экскурсій у БССР, наладжваць свае вечарынкі, конкурсы, адгаданкі, фестыны, адзначаць знамянальныя гадавіны ў гісторыі развіцця беларускай культуры, з улікам яе сувязей з польскай культурай.

А цяпер іншае пытанне. У вёсках Літвінавічы і Вілінава, Сямяціцкага павета, існуюць актыўныя гурткі БГКТ. Зусім слушна хвалім іх за спраўную арганізацыю працы грамадскім чынам. Вядома ж, што ў Вілінаве вёска пабудавала сабе прасторны дом культуры, што ў Літвінавічах збіраюцца будаваць — таксама грамадскім чынам — ужо другую святліцу, на гэты раз мураваную, бо папярэдняя, драўляная, аказалася цеснай. Ніхто не зможа запярэчыць, што гурткі БГКТ у гэтых вёсках прымалі актыўны ўдзел у працы грамадскім чынам, бо сапраўды так было. Аднак ніхто таксама не запярэчыць, што дамы культуры будавалі там гурткі ЗМБ або вясковых гаспадынь ці нейкія іншыя, бо гэта таксама праўда. Проста адны і тыя ж людзі належаць да розных арганізацый, і таму кожная з іх у сваёй справаздачы прыпісвае сабе заслугі. Але гэта не бяда. Важнае, што робіцца карысная справа.

І далей. Нам неабходна выпрацоўваць свае метады і формы дзейнасці. Нам патрэбны не працаўнікі ад 8 да $15^{00}$, а дзеячы, якія патрапілі б дапамагаць гурткам наладжваць мастацкую самадзейнасць, арганізоўваць вечарыны і г.д. Значыць, патрэбны нам добра падрыхтаваныя кадры. Для прыкладу возьмем нашу «Лявоніху». Рэдка дзе зможа яна цяпер выступіць з камплектам сваёй апаратуры. Значыць, трэба тады апрацаваць дзве праграмы для «Лявоніхі» — цяперашнюю і іншую, з якой змагла б яна выступаць у кожных, найбольш прымітыўных умовах. Тое ж самае з інструктарам. Колькі ж гурткоў БГКТ, хацелася б запытаць, атрымала ад іх канкрэтную дапамогу ў пастаноўцы п'есы ці іншай мастацкай праграмы? Усё неяк не змаглі мы выпрацаваць форм супрацоўніцтва з павятовымі дамамі культуры. Галоўнае праўленне павінна паслядоўна дабівацца ад адміністрацыйных улад, каб яны ў сваёй кадравай палітыцы, асабліва ў галіне культуры, бралі пад увагу патрэбы беларускіх асяроддзяў і такім чынам аказвалі нам сапраўдную, а не толькі фармальную дапамогу. (вр)

# Асцярожней з АГНЁМ!



У той дзень, калі наведалі мы намесніка каменданта павятовай пажарнай аховы ў Саколцы Станіслава Шоду, панавала гарачыня больш 30 градусаў. Вярнуўся ён з чарговай прафілактычнай інспекцыі, якая спрыяе насцярожванню людской увагі і павелічэнню асцярожнасці з агнём. Гэтым разам наведаў Станіслаў Шода вёску Кусцінцы, якая шэсць гадоў таму назад цалкам згарэла. Дзе як дзе, але ўжо ў гэтай вёсцы, дзе людзі страшэнна пацярпелі з-за неасцярожнасці з агнём, павінен быць заўсёды добры супрацьпажарны стан. Але гэтак магло б толькі здавацца. Пры дапамозе дзяржавы людзі адбудаваліся і зноў не ў згодзе жывуць з супрацьпажарнымі правіламі. На панадворках многа саломы, галля. Шмат рознага ламачча каля ўсіх будынкаў. Не прыбіты бляхі ля дзверцаў пліт і коміны не ўсюды ў парадку. І трэба было на многіх налажыць грашовыя кары.

— Якога характару людская неасцярожнасць выклікае найбольш пажараў? — пытаюся ў паручніка пажарнай аховы.

— Усякая. Прывяду я некалькі прыкладаў. Міхал Войтка з Макаўлянаў, не дакасіўшы жыта, зрабіў перапынак. Выпраг каня са жняяркі, каб адпачыў, а сам, выкурыўшы папяросу, кінуў яе ў жыта. І ад недакурка загарэлася няскошанае жыта. Кінуўся ён гасіць агонь, але ўжо не даў рады. І ледзь выцягнуў жняярку з пажару. Сам моцна папарыўся.

А вось другі прыклад. 11 жніўня ў 13 гадзін Эмілія Кондрат з Новай Волі распаліла ў пліце, а сама пайшла ў склеп па бульбу. Тым часам выпаў агонь на галлё, што ляжала пры пліце, і яно пачало гарэць. Калі вярнулася ў хату гаспадыня, гарэлі ўжо сцены. Пачала яна гасіць. Папяклася, але не магла ўжо справіцца са стыхіяй. Згарэла хата, а ад яе загарэўся лес. Пайшло з дымам больш 35 га лесу.

Калі расшалеецца агонь, пагасіць яго адной асобе немагчыма і вельмі небяспечна. 13 ліпеня ў Багушах Юстына Мазалеўская гасіла пажар у сваёй хаце і дымам задыхнулася. Упала і жыўцом згарэла ў полымі. Дайсці да яе не было магчымасці.

— Падалі вы прыклады пажараў узнікшых з прычыны неасцярожнасці дарослых. Але дзеці, мусіць, больш робяць пажараў?

— У нашым павеце наадварот. На 35 пажараў (у перыяд ад 1 студзеня да 18 жніўня) узнік у выніку неасцярожнасці дарослых 21 пажар. Дзеці выклікалі пажары толькі ў трох выпадках. І гэта толькі таму, што ад дзяцей не хаваюць належна запалкі. І тут зноў хачу падаць адзін прыклад. У вёсцы Засцянкі (ГРН Старая Каменна) дзеці — 9-гадовая Чэся Квяткоўская і яе малодшы брат 6-гадовы Лешак — ўзялі з хаты запалкі і пайшлі гуляць з агнём у вятрак. Згарэў вятрак і дзве клуні.

Станіслаў Шода пасля расказваў аб прафілактычнай працы павятовай пажарнай аховы, якая вядзецца сярод насельніцтва і сярод школьнікаў. Гэта галоўным чынам супрацьпажарныя кантролі і гутаркі.

— Недацэньваюць у нас да гэтага часу небяспеку пажараў тарфянішчаў — працягваў мой размоўца. — Маю тут на думцы меліярацыйныя работы на сенажацях, дзе часта пакідаюць нязгашаны агонь і дзе зусім амаль не звяртаюць увагі на нязгашаныя недакуркі папяросаў. Тарфянішчы цяжка гасіць, таму што торф доўга тлее незаўважна, а пасля разгараецца і прыносіць вялікую шкоду.

— Колькі ёсць у павеце пажарных каманд і як яны працуюць?

— На Сакольшчыне ёсць 103 пажарныя каманды. Звыш 10-ці пажарных каманд маюць спецыяльныя машыны і добрае супрацьпажарнае абсталяванне. Рэшта карыстаецца пакуль што конным транспартам. У беларускім асяроддзі добрыя пажарнікі ў Паўднёвым Востраве на чале з Яўгенем Жамойдам і Міхасём Жамойдам, у Гаркавічах на чале з Сяргеем Галубовічам, у Крушынянах на чале з Кастусём Пательскім і г.д. Добрыя таксама пажарныя каманды у Талькоўшчыне, Санніках, Ласінянах і іншыя.

Многа добрага можна пачуць аб пажарнай камандзе ў Саколцы. Мае яна многа выездаў. І калі адразу яе паведамляюць, што нешта загарэлася, яна не дапусціць да поўнага знішчэння таго ці іншага будынка. І тут зноў прывяду прыклад. У студзені ад дрэннага коміна ў вёсцы Павэлкі загарэлася хата. Хуткае паведамленне нашай пажарнай каманды выратавала хату. Згарэла толькі саламяная страха. Дзякуючы ахвярнасці пажарнікаў агонь хутка быў знішчаны і вялікіх страт гаспадар не меў.

У заканчэнні гэтай публікацыі трэба падкрэсліць і той факт, што Станіслаў Шода з'яўляецца сімпатыкам БГКТ і, калі трэба, дапамагае сакольскаму аддзелу Беларускага таварыства. 4 ліпеня прымаў ён удзел у народным фестыне БГКТ у Талькоўшчыне. Сакольская пажарная ахова арганізавала там паказ гашэння пажару.

*Размову правёў*
*Міхась Хмялеўскі*
*Фота ЦАФ — Савіцкі*

# Гайнаўскія сельгасгурткі

Зараз на Гайнаўшчыне дзейнічае 127 сельскагаспадарчых гурткоў, якія налічваюць 7643 членаў. Распараджаюцца яны маёмасцю на суму 67 930 тысяч злотых. Членамі сельгасгурткоў з'яўляецца 70 працэнтаў усіх сялян. У такіх грамадах, як Новае Беразова, Чыжы, Стары Корнін, Кляшчэлі і Арэшкава сельгасгурткі дзейнічаюць ва ўсіх вёсках. Некаторыя МБМ-ы (міжгуртковыя машынныя базы) і сельгасгурткі маюць новапабудаваныя гаражы і склады. Новыя гаражы мае МБМ у Арэшкаве. Да канца гэтага года новыя гаражы атрымаюць МБМ у Клейніках і сельскагаспадарчы гурток у Дубічах Царкоўных.

У першым паўгоддзі г.г. найбольш гадзін працы мелі трактарысты з Навасадаў, Збуча, Кляшчэляў, Мора, Курашава і Ляўкова. У сярэднім прапрацавалі яны па 500—600 гадзін. Зарабілі яны 11 мільёнаў злотых, але на рамонты трактараў і сельскагаспадарчых машын МБМ-ы і сельгасгурткі выдалі палавіну гэтай сумы. Гэтакая з'ява моцна непакоіць прэзасаў сельгасгурткоў і кіраўнікоў МБМ-аў.

Усе сельгасгурткі гаспадараць на 980 гектарах зямельных угоддзяў з ПФЗ. У сярэднім па 100—300 гектараў загаспадаравалі сельгасгурткі са Ставішчаў, Іванкаў, Дубічаў, Сакоў і Навасадаў. Сеялі яны збожжа, якое дало ўраджай па 20 і больш цэнтнераў з аднаго гектара. МБМ у Саках займаецца таксама гадоўляй авечак. Зараз гадуе іх каля 60 штук. (яц)

# Клуб ЗНП

Ажыўленую дзейнасць вядзе настаўніцкі клуб у Гайнаўцы, якім кіруе Зіна Галэмбеўская. Дзейнічаюць у ім драматычныя і літаратурная секцыі, а таксама секцыя скульптараў і мастакоў. Члены драмгуртка падрыхтавалі спектакль пад загалоўкам «Малітва» на аснове ўрыўкаў паэзіі Тадэвуша Ружэвіча і п'есы Арабаля. З пастаноўкай гэтай выступілі яны на сцэне ў гайнаўскім доме настаўніка і на аглядзе драмгурткоў у Беластоку. Варта адзначыць, што драмгурток два разы здабыў першае месца на ваяводскіх аглядах аматарскіх тэатраў, а таксама атрымаў узнагароду міністра культуры і мастацтва на агульнапольскім аглядзе ў Лодзі.

Члены літаратурнай секцыі Галена Кабац, Юльюш Айжаноўскі, Уладзімір Муська, Кіра Івашчынская і Данеля Абрамчук сістэматычна арганізуюць літаратурныя вечары, праводзяць ацэнку сваёй творчасці. Секцыю скульптараў і мастакоў узначальваюць Віктар Кабац і Анатоль Корзун. Скульптуры Віктара Кабаца атрымалі найбольш узнагарод, удзельнічаў ён у ваяводскіх, агульнапольскіх выстаўках, а таксама ў выстаўцы ў Чэхаславакіі. Клуб арганізаваў многа сустрэч, выставак, лекцый, экскурсій, супольных выездаў у тэатр і г.д.

За сукупнасць сваёй дзейнасці клуб атрымаў у 1966 годзе ўзнагароду міністра культуры і мастацтва. (яц)

# Грамада Крынкі і Шудзялава...

...знаходзяцца ў паўднёва-ўсходняй частцы Сакольскага павета. У грамадзе Крынкі налічваецца каля 2,5 тысяч гектараў зямельных угоддзяў. Сяляне найбольш сеюць тут жыта (610 гектараў), аўса (460 гектараў) і іншых збожжавых культур. Зараз сяляне з крынкаўскай грамады прымяняюць у сярэднім 105 кілаграмаў NPK у чыстым складзе на 1 гектар і збіраюць ураджай збожжавых культур у сярэднім па 20 цэнтнераў з гектара.

Найбольш мінеральных угнаенняў прымяняюць на сваіх угоддзях Юры і Леанід Анісімовічы, Аляксандр Клімук, Уладзімір Анісімовіч с. Ігната, Францішак Макар і Уладзімір Пратасевіч. Сяляне стараюцца механізаваць палявыя працы. Зараз 80 працэнтаў усіх сялян карыстаецца машынамі сельскагаспадарчых гурткоў. У жніво вельмі ахвотна бралі на свае палі камбайны тыпу «Вістула».

У крынкаўскай грамадзе адчуваецца недахоп сенажацяў. Таму сяляне займаюцца перш за ўсё свінагадоўляй і вырошчваннем агародніны. Найбольш свіней гадуюць Казімір Ігнатовіч (некалькі дзесяткаў штук) і Леанід Анісімовіч (да 20 штук).

З мерапрыемстваў у самых Крынках варта адзначыць разбудову адзінай тут гарбарні, у якой будзе працаваць дадаткова 60 асоб, а таксама закладку ходнікаў пры вуліцы Гарбарскай і Горнай, загаспадаранне скверыка ў цэнтры мястэчка, пасадку дрэўцаў паабапал дарог і аднаўленне клуба-кавярні.

У грамадзе Шудзялава, хоць яна таксама не мае найлепшых зямельных угоддзяў (V—VI клас), сяляне аднак атрымліваюць тут ураджай збожжавых культур у сярэднім па 22 цэнтнеры з гектара. Перашкодай ў развіцці сельскай гаспадаркі на вышэйшым узроўні з'яўляецца перш за ўсё недастатковая колькасць сенажацяў і цераспалосіца. Дагэтуль на 15 вёсак грамады камасацыя зямельных угоддзяў праведзена толькі ў чатырох вёсках: у Піражках, Астраўку, Паўночным Востраве і Слоі. Перадавымі сялянамі шудзялоўскай грамады з'яўляюцца Эдвард Чаромха з калёніі Слойка, які кантрактуе больш 5 гектараў збожжавых культур і Здзіслаў Чаромха з Пачопкаў, які займаецца перш за ўсё гадоўляй свінаматак. Зараз гадуе іх 5 штук.

*Янка Цялушэцкі*

Беларуская ЛІТАРАТУРА — Аляксандр Баршчэўскі

# Перыяд Вялікага княства Літоўскага

## ДРУКАРЫ, АСВЕТНІКІ — ЧАСТКА V

Сымон Будны. Мы ўжо пазнаёміліся з найважнейшымі фактамі з жыцця Буднага. Ведаем таксама галоўныя кірункі яго поглядаў і ідэй. Застаецца яшчэ нам ахарактарызаваць выдавецкую дзейнасць Буднага. У гэтай галіне Будны з'яўляецца адным з найбольш актыўных друкароў і выдаўцаў у тагачаснай Беларусі. Выдавецкая спадчына Буднага не адносіцца толькі да адной беларускай мовы. Пісаў ён таксама па-польску і па-латыні. І таму не можам Буднага прысвойваць толькі беларускай культуры і літаратуры. Належыць ён таксама да польскай культуры. Сваёй польска-беларускай творчасцю Будны запачаткаваў асабліва моцную ў XIX ст. тэндэнцыю пісаць на некалькіх мовах. У пісьменнікаў XIX ст. былі гэта, як правіла, беларуская і польская мовы.

У 1562 годзе, дзякуючы матэрыяльнай падтрымцы Радзівіла, Мікалая Чорнага і Астапа Валовіча, Будны выдаў на беларускай мове «Катэхізіс». Кніга гэта была свайго роду маніфестам кальвіністаў. Выкладаў у ёй Будны найважнейшыя ідэі новага, рэфарматарскага вучэння. Сутнасцю кнігі былі рэлігійныя пытанні, гаворачы дакладней, новая інтэрпрэтацыя старых канонаў. Праваслаўная царква і каталіцкі касцёл, паводле Буднага, фальшавалі, неўласціва разумелі, спекулявалі на законе божым. З гэтай прычыны запанавала пільная патрэба ўласцівага тлумачэння Бібліі і запаветаў божых. Кальвінізм, па думцы Буднага, і быў той адзінай правільнай інтэрпрэтацыяй рэлігійных пытанняў.

Але не толькі рэлігійная праблематыка характэрна для «Катэхізіса». Будны ставіць у сваім творы рад іншых пытанняў. Датычаць яны і маралі, і права, і багацця, і навукі. Следам за Скарынай Будны жадае, каб людзі «самі учылі і дзетак сваіх навучалі». Асвета затым — адна з галоўных праблем, якая будзе выступаць амаль ва ўсіх кнігах Буднага. Некалькі месяцаў пасля выдання «Катэхізіса» выпусціў Будны ў Несвіжы другую кнігу на беларускай мове — «Аб апраўданні грэшнага чалавека перад богам». Кніга гэта была выдадзена супольна з ідэйнымі прыхільнікамі Буднага — Крышкоўскім і Кавячынскім. Ні адзін экземпляр «Апраўдання» не дайшоў да нашых дзён, аднак некаторыя з даследчыкаў з пачатку XIX ст. сутыкаліся з гэтай кніжкай. У «Апраўданні», як і ў папярэдняй сваёй кнізе, заняўся Будны рэлігійнымі праблемамі. У сувязі з тым, што ў кнізе прадставіў ён новае тлумачэнне рэлігійных канонаў, выступілі супраць яго і прадстаўнікі праваслаўнай царквы і прадстаўнікі каталіцкага касцёла.

Апрача названых дзвюх кніг на беларускай мове, праўдападобна, выдаў Будны на гэтай жа мове кнігі «Аб хрышчэнні і вячэры сына божага», «Евангеліе» і сатырычную кнігу «Катэхізіс». Кнігі гэты аднак не толькі не захаваліся, але і ў навуковай літаратуры не знаходзім аўтарытэтных інфармацый аб іх. Таму вестку аб іх існаванні можам прымаць умоўна і гіпатэтычна.

Якія мэты ставіў перад сабой Будны, выдаючы кнігі на беларускай мове? Перад усім, стараўся разбіць манаполію царквы і касцёла ў галіне выдавецтваў. Апрача гэтага, стараўся давесці новыя рэфарматарскія ідэі да шырокіх колаў беларускіх чытачоў. Урэшце, імкнуўся пашырыць асвету і адукацыю ў народных масах.

У сувязі з тым, што многія «ерэтычныя» кнігі ў той час былі праследаваны царквой і касцёлам, Будны, стараючыся зберагчы свае кнігі ад праследаванняў, прысвячаў іх высокапастаўленым князям. І так «Катэхізіс» прысвечаны князям Радзівілам. Славячы род Радзівілаў, аўтар выражаў ім шырокую падзяку за іх прыхільнасць да беларускай мовы, за іх зразуменне для ідэй асветы народных мас, за іх падтрымку для выдавецкай справы.

У 1572 г. Будны пераклаў на польскую мову і выдаў Біблію. У польскі тэкст Бібліі ўвёў ён пэўную колькасць беларускіх слоў. У прадмове да гэтай кнігі, беручы пад увагу нярэдкія ў той перыяд нападкі на беларускую мову з боку езуіцкага лагера, напісаў, што імкненне падпарадкаваць адну мову другой з'яўляецца нічым не апраўданым глупствам. Няма сумненняў, што Будны быў рашучым праціўнікам асімілятарскай палітыкі, якая праводзілася на Беларусі шляхецкай Рэчыпаспалітай.

Будны быў пісьменнікам вялікай актыўнасці. Апрача названых ужо кніг выдаў ён на польскай мове наступныя кнігі: «Новы запавет» — 1574, «Аб асноўных артыкулах веры хрысціянскай» — 1576, «Аб фурыях або шаленствах французскіх», г.зн. аб страшным і няслушным забойстве адмірала Кастыльёнскага і іншых мужоў — 1572, «Аб свецкай уладзе» — 1583.

Выдаў Будны таксама некалькі кніг на лацінскай мове. Найцікавейшыя з іх: «Кароткі доказ на тое, што Хрыстос не з'яўляецца такім жа богам як айцец» — 1574, кніга аб дзвюх прыродах Хрыста — 1575, просты і ўзброены святым пісьмом адказ Буднага — 1578.

З усяго сказанага відаць, што Будны быў чалавекам з выключнымі ведамі, з шырокай прывязанасцю да ідэй асветы народа, з вялікімі друкарскімі здольнасцямі.




# ЖАНЧЫНА Ў ГАБОНЕ

Габон (*Габонская Рэспубліка*) — адна з афрыканскіх незалежных краін. Яшчэ нядаўна Габон быў французскай заморскай тэрыторыяй. Зараз пражывае тут 0,5 мільёна жыхароў, а яго плошча 265 тыс. кв. км. Габон пераразае экватар, а суседзямі з'яўляюцца Камерун, Конга і Сярэднеафрыканская Рэспубліка.

З Афрыкі часта даведваемся аб пэўных з'явах, якія здаюцца нам дзіўнымі. Гэта таму, што мы прывыклі глядзець на ўсё вачыма еўрапейцаў і падпарадкоўваць усё нашым узорам. Хаця б узяць ролю сям'і. Цяжка нам уявіць сабе, каб дзядзька (брат бацькі або маці) быў бацькам дзіцяці сваёй пляменніцы. А так ёсць у Габоне. Усё гэта звязана з традыцыяй, паводле якой добрае ўсё тое, што служыць сям'і, племені.

На незамужніх маці глядзяць тут не толькі не крыва, але наадварот цэняць іх, бо яны «выпрабаваны» ў плоднасці. Габонцы не разумеюць, напрыклад, таго, што манашкі і каталіцкія ксяндзы не жэняцца. Тут усё падпарадкавана жыццёвым справам, і таму найважнейшае тут, колькі жанчына мае дзяцей, а не ці яна замужняя, ці не. Дзіця тут разумеецца, як знак новага жыцця.

Габонская жанчына — гэта капітал. Гэта яна, выходзячы замуж, уносіць пасаг у дом свайго бацькі, будучы гэтым самым не толькі адной з крыніц яго даходаў, але неаднойчы адзіным спосабам гарантыі пасагу свайму брату, калі той захоча жаніцца. Гэты пасаг паслужыць іншай дзяўчыне, каб такім спосабам гарантаваць новыя шлюбы. Іначш гаворачы, такая сітуацыя часта можа быць прычынай таго, што дочкі могуць лёгка ўзбагаціць бацьку, калі той захавае пэўную эканамічную раўнавагу паміж даходамі з дочак і выдаткаваннем на жонак (гэта датычыць мнагажэнца). Аднак і ў гэтым выпадку бяда невялікая, бо жанчыны заўсёды працуюць, раздзяляючы між сабой абавязкі працы на плантацыях, выхоўвання дзяцей, гандлю і, зразумела, дому.

З грамадска-эканамічнага пункту гледжання жанчына падвышае прэстыж мужчыны, даючы яму дзяцей і памнажаючы яго даход працай сваіх рук. Апрача таго, у выпадку большай





колькасці жонак, мужчына лічыцца чалавекам уплывовым і моцным. У апошні час супраць мнагажэнства бунтуюцца маладыя, таму што вымушаны яны часта шукаць жонак па-за сваім асяроддзем, бо багаты палігаміст мае магчымасць іх сабе запэўніць нават перад іх нараджэннем або ад дзяцінства. Паводле тутэйшай традыцыі заручыны пачынаюцца тут ад першай раты пасагу.

Асабовасць габонскай жанчыны фарміруюць розныя табу. Найважнейшым табу з'яўляецца харчаванне. Ужо ад дзяцінства нельга ёй есці яек, бо з'яўляюцца яны сімвалам і зародкам жыцця. Не можна таксама есці мяса газелі, малпы ці іншай жывёлы жаночага роду, таму што тамтэйшая традыцыя гаворыць: тая, што дае жыццё (жанчына), не павінна нішчыць істот, якія, так як і яна, лічацца крыніцай жыцця.

Жанчына ў Габоне цэніцца на столькі, на колькі можа яна ўнесці ў жыццё і ўзбагаціць яго сваім асабістым жыццём. З той прычыны пра яе выхаванне вельмі дбаюць. Пачынаецца яно вельмі рана. Маладзёжныя арганізацыі ад першых гадоў прывучаюць яе да працы. Мае яна дапамагаць варыць, прымаць удзел у сціргы і быць на паслугах другіх, асабліва старэйшага брата. Паслухмянасць, пакорлівасць, скромнасць, працавітасць і маўчанне — вось дабрачыннасць будучай жонкі, маці і грамадзянкі. Жаночыя арганізацыі ўводзяць потым дзяўчыну ў новы свет. Адна з іх навучыць яе асабістай гігіене, іншая пазнаёміць з лячэбнымі раслінамі, навучыць танцаваць, а асабліва будзе старацца падрыхтаваць яе да ролі жонкі і маці.

Вось жменька вестак аб жанчыне ў габонскім грамадстве.

(А-К).

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### СА СЛІВАМІ

Сезон сліў, яблыкаў і ігруш у разгары. Спажываем іх сырымі, колькі можам. Недарагія. Варта тады выкарыстаць іх у падрыхтоўцы розных кампотаў і пірагоў, дададуць яны кожнаму цесту спецыфічны арамат, а пра цеста можна будзе з гонарам сказаць: «сезоннае». Добрая ж гаспадыня, вядома, заўсёды выкарыстае сезон.

### ТОРЦІК СА СЛІВАМІ

На цеста бярэм 5 яечак, 25 дэкаў мукі, 25 дэкаў цукру, 22 дэкі маргарыну ці масла, чайную лыжачку парашку да пячэння, 1 кг сліў — «венгерак» і цукровую пудру, змешаную з ванілінам.

Маргарын расціраем у місцы, дадаючы па аднаму жаўтку, лыжцы цукру і лыжцы мукі. Калі ўсё добра разатрэм, дадаем да атрыманай масы парашок да пячэння і добра перамешваем. Бялкі трэба збіць у цвёрдую пену (з перавернутага ўверх дном посуду яны не павінны вылівацца), дадаем іх да атрыманай масы і лёгка перамешваем.

Слівы памыць, выняць з іх костачкі, парэзаць на чвэрткі. Цеста разлажыць не надта тоўстым пластом у вялікай тартоўніцы або на бляшцы, палажыць на ім парэзаныя слівы (можна пасыпаць яшчэ пасечанымі арэхамі) і паставіць у не надта гарачую духоўку. Калі пірог спячэцца, гэта значыць, будзе мець залаты колер, трэба яго адразу вымаць з печы і пасыпаць цукровай пудрай з ванілінам.

### БУЛАЧКІ НА ДРАЖДЖАХ СА СЛІВАМІ

На цеста бярэм: 1/2 кг мукі, 3 яечкі, 3/4 шклянкі цукру, ванільны цукар, палову пачкі маргарыну ці масла, 5 дэкаў дрожджаў, малако, 1/2 кг сліў — «венгерак».

Дрожджы распусціць у шклянцы цёплага малака, дадаючы па чайнай лыжачцы цукру і мукі. Паставіць у цяпле, каб падраслі. Яечкі збіць з цукрам і ванілінам. Калі дрожджы падвояць свой аб'ём, дадаць іх да мукі разам са збітымі яечкамі, калі трэба, дадаць крыху цёплага малака, мясіць рукамі.

Праз 10 мінут дадаць растоплены тлушч і яшчэ хвіліну мясіць цеста. Паставіць цеста ў цёплым месцы, каб падрасло. Калі яно падвоіць свой аб'ём, раскатаць яго на стале, пасыпаным мукою. Цеста павінна мець таўшчыню 1 см. Выразаць з яго шклянкай кружочкі, класці іх на змазанай тлушчам бляшцы. Кружкі змазаць бялком, на кожным з іх класці надрэзаную ўздоўж сліву з вынятай костачкай (у сліву добра было б палажыць цукар, змешаны з пасечанымі арэхамі, але калі арэхаў няма, можа быць адзін цукар).

Калі кружкі крыху падрастуць, пячы іх у не надта гарачай духоўцы.

Прыемнага апетыту і добрага сямейнага настрою!

*Гаспадыня*

# ФІЛАМАЦКІ ПАРЫЎ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

## ФЕЛІКС ЛЯХОВІЧ

Міхал Рукевіч прыехаў з Вільні ў другой палове 1820 г. і зараз жа пазнаёміўся з вучнем беластоцкай гімназіі, 16-гадовым Феліксам Ляховічам. Хутка, мяркуюць, што пры дапамозе Зыгмунта Навіцкага, нахіліў яго да ўтварэння Таварыства згодных братоў. Несумненны быў уплыў філаматаў на стварэнне гэтай арганізацыі, хаця ў час працэсу Ляховіч прадстаўляе арганізацыю як уласную ініцыятыву, самастойную і незалежную ад якіх-кольвек уплываў. У сваіх паказаннях імкнуўся Ляховіч як найменш высоўваць істотныя задачы арганізацыі, увыпукляў затое выключна філантрапічны і альтруістычны характар таварыства — «наколькі ж больш шчаслівым магло быць нашае жыццё, калі б кожны чалавек меў добры звычай, быў сумленным і пільным у выкананні сваіх абавязкаў»*. «Не адзін, размілаваны ў сваіх зборах, адмаўляе дробнай даніны беднаму, не адзін, бачачы прыяцеля свайго, родзіча падаючага адмаўляе яму ў неабходнай дапамозе».**

Асноўныя прынцыпы «Згодных братоў» былі аналагічныя «Прамяністым». Членам яго нельга было піць гарэлку, гуляць у азартныя гульні, весці распуснае жыццё, неабходна было дапамагаць сябрам у бядзе, клапаціцца аб іх поспехах у вучобе і г.д.

У фармальных адносінах таварыства гэта таксама напамінала Таварыства прамяністых. Так, напрыклад, перад прыняццем у таварыства будучага члена імкнуліся дакладна пазнаць, пасля прадстаўлялі яго кандыдатуру сходу, прымалі толькі тады, калі рашэнне сходу было аднагалоснае. Уступаючы складаў прысягу. Члены таварыства атрымлівалі псеўданімы (найчасцей былі гэта прозвішчы славутых палякаў, каб узбудзіць сярод членаў таварыства пачуццё патрыятызму, ды каб у выпадку выкрыцця іх карэспандэнцыі, нельга было пазнаць, хто ліст пісаў. У сваіх жа пісьмовых паказаннях Фелікс Ляховіч разумна даказваў, што прозвішчы яны змянялі сабе выключна з той мэтай, каб кожны мог уявіць сабе, што павінен стаць кімсьці іншым, чым быў, лепшым і высакародным.

Члены таварыства, якія дрэнна сябе вялі, або не выконвалі статут, атрымлівалі на сходах выгавар, або плацілі кару 15 кап. сер. Калі хацелі пазбыцца якога-небудзь члена, то ўлады таварыства сімулявалі роспуск таварыства. Калі ж член адыходзіў сам, то падпісваў дэкларацыю аб захаванні таямніцы.

Каб члены таварыства маглі лёгка пазнаць адзін аднаго, быў уведзены спецыяльны васьмікутны пярсцёнак, у сярэдзіне якога было напісана:

„Nic mnie ustraszyć nie zdoła,
Gdy bliźni o pomoc zawoła".

У 1823 годзе Таварыства згодных братоў было перайменавана ў «Заран». Назву сваю яны ўзялі таму, што «як свет зары, папярэджваючы прамені сонца, папярэджвае разам яго дабрачынны ўплыў на зямлю, так кожны, хто належаў да таварыства, павінен быць заняты дабрачыннасцю».*** Мэты яго былі тыя ж самыя, што раней.

Хочучы пашырыць новае таварыства, Фелікс Ляховіч пераязджае ў 1822 годзе з Беластока ў Свіслач і паступае ў тамашнюю гімназію. Ужо ў пачатку гэтага ж года ўдалося яму ўтварыць Таварыства заран, падобнае да беластоцкага.

На канікулы аднак вучні параз'язджаліся дахаты, і большасць, ужо не вярнуўшыся ў гімназію, аўтаматычна перастала належаць да таварыства. Таварыства ў Свіслачы ўжо не адрадзілася.

У сувязі з непаразуменнямі паміж членамі, пачало распадацца і Таварыства заран у Беластоку. Тым часам, аднак, адбыліся здарэнні, якія запэўнілі далейшы быт заранам, аб'ядноўваючы іх лёс з лёсам іншай тайнай беластоцкай арганізацыі — Таварыствам прыяцеляў вайсковых.

У 1824 г. Міхал Рукевіч, вярнуўшыся ў Завыкі з віленскай турмы, меў цвёрды намер і надалей утвараць тайныя таварыствы грамадска-палітычнага характару, зрэшты, у духу праграмы філаматаў. Мабыць, тады ўзнікла ў яго думка ўтварыць тайнае таварыства сярод афіцэраў Літоўскага корпусу. Відаць, Рукевіч меркаваў распачаць агітацыю ў арміі, аб чым (паводле няясных паліцэйскіх справаздач) мелі дыскутаваць увосень 1824 года на сваіх сходах філарэты. Адразу ж пачаў ён наладжваць сувязі з афіцэрамі, што яму як былому вайсковаму, не было цяжка. Бываў часта ў Беластоку. Інфармаваў іх аб апошніх віленскіх здарэннях і аб Таварыстве прамяністых. Ён выясняў мэты прамяністых: асвета, узаемадапамога, выкараненне дрэнных звычаяў і г.д. Пасля ўступных размоў з некаторымі афіцэрамі ён запрапанаваў стварыць сярод афіцэраў аналагічнае таварыства. Павінна яно было імкнуцца злагодзіць у арміі дысцыпліну, якая асабліва давалася ў знакі ніжэйшым афіцэрам, ліквідаваць пратэгаванне адных, а паніжэнне другіх і г.д.

Хутка быў апрацаваны статут Таварыства прыяцеляў вайсковых. Разам з тым было вырашана ўтварыць другую ступень таварыства, так званае Таварыства згоды — для цывільных служачых. Паколькі ў членах яго апынуліся некаторыя былыя свіслацкія зараны, якія ведалі беластоцкіх заран, было вырашана заадно аднавіць даўнейшае Таварыства заран і ўключыць яго як найніжэйшую, трэцюю ступень у

